# ХТО ТАКІЯ АКЦЯБРАТЫ

*Нарыс А. Ч.*

Адасік праз вакно, ці гуляючы на вуліцы свайго гораду, часта бачыў піонэраў, калі яны з вясёлымі зычнымі песьнямі шагаюць, як чырвонаармейцы.



*Мы—чырвонаармейцы!*

Яму яшчэ было толькі сем гадоў. Але і ў Адасіка было вялікае жаданьне далучыцца да піонэраў. У яго нават быў ужо гальштук. Стары, праўда, братаў, але ўсё-ж гальштук.

Толькі вось бяда: брат усё не згаджаецца з тым, што Адасік можа таксама быць піонэрам.

— Малы ты,—кажа брат. У нас такіх у атрадзе няма. Але чакай, скора ў нас будзе атрад, куды прымуць і цябе.

— Што-ж гэта за атрад?—зьдзівіўся Адасік.

— Атрад для малых,—горда заявіў Косьця, выстаўляючы палец у бок брата. Гэта ён хацеў паказаць сябе вельмі вялікім, а брата—машкарою.

Адасік з нецярплівасьцю чакаў, калі ўжо будзе той „атрад для малых“.

А цяпер усё гэта сталася праўдай. „Малы атрад“, гэта—група акцябрат, куды сёньня і прывёў свайго брата Косьця.



*Трэба пазабаўляць і меншага.*

У групе разам з Адасікам было яшчэ з дзесятак такіх малалетак. Спачатку Адасік трымаўся збоку, ваўчком на ўсіх глядзеў, бо якраз нікога з акцябрат ня ведаў—усе ня з іх вуліцы.

Але потым асвойчыўся і сам пачаў бегаць, забаўляцца, як і іншыя.

Калі акцябраты сабраліся, павадырка групы, комсамолка Ніна, заклікала акцябрат да парадку.

**(Працяг чытай на 3-яй стар. вокладкі).**

**ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“**

**Рэдколегія: ГАРБУЗ П., (адк. рэдактар), РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сэкратар).**

ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 1-ы



Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 1. Кастрычнік 1929 г.

Адрас Рэдакцыі і Кантори:
МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

## МАЕМ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

На дзяцей старэйшае пакаленьне Ленінцаў ускладае вялікую надзею. Дзеці—наша будучыня. І школа, і комсамольцы, і партыйцы—усе працуюць над тым, каб гадаваць з дзяцей надзейную зьмену старэйшым барацьбітом.

Вялікую, і вельмі вялікую, долю ў выхаваньні бярэ на сябе і кніжка.

Вось-жа з гэтай прычыны і пачала выдавацца раз у месяц самая даступная па дане, зразумелая для меншых дзяцей часопісь „Іскры Ільліча“.

Трэба, каб часопісь памагала дзецям рабочых і сялян падрыхтаваць з сябе добрых піонэраў-Ленінцаў.

Трэба змалку вучыцца і прывыкаць да вялікай работы, якая цяпер так шырока разгарнулася ў нашай краіне.



*Буду чырвонаармейцам!*

Правадыр працоўных усяго сьвету Уладзімер Ільліч перад сьмерцю пакінуў дзецям завет: **ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА і ВУЧЫЦЦА.**

Завет Ільліча дзеці павінны выконваць.

Рэч вядома, што ня толькі-ж рэдакцыя будзе друкаваць часопісь, а вы—чытаць. Не, гэта яшчэ ня ўсё. Рэдакцыя спадзяецца, што вы, малыя чытачы, будзеце самі памагаць рэдакцыі выдаваць вашу часопісь.

Як гэта так? А вельмі проста. Усе нашы чытачы будуць прысылаць у рэдакцыю свае творы, малюнкі, допісы пра тое, як яны жывуць, вучацца, што цікавага майструюць і ўсё іншае. Чытачы будуць пісаць і пра тое, як падабаецца ім часопісь, што-б яны хацелі бачыць у часопісі.

Складаць чарговыя нумары мы будзем ужо з вашай дапамогай.



# ШТО БЫЛО ДВАНАЦЦАЦЬ ГОД ТАМУ НАЗАД

## *НАРЫС АБ КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВОЛЮЦЫІ*

* * *

З гісторыі людзей нам вядома, што вельмі даўно, тысячы гадоў таму назад, быў такі час, калі людзі не падзяляліся на бедных і багатых. Людзі ўсе мелі роўныя правы. Гэты падзел адбыўся пазьней, калі зьявілася ў людзей уласнасьць. Багатыя тады пачалі браць верх над слабейшымі, беднымі, карыстацца іх дармовай працаю для сваёй выгоды.

Бедныя прымушаны былі дрэнна жыць і шмат працаваць у розных майстэрнях, на фабрыках, заводах. Усе гэтыя фабрыкі з машынамі належалі багатым людзям—капіталістым (тым, што мелі капітал).

Багатыя жылі ў вялікай раскошы, нічога не рабілі, толькі вечна гулялі і весяліліся на розных сваіх вечарынках.

Але бедныя не скараліся перад цяжкай доляю. Яны заўжды дамагаліся таго, каб мець лепшае жыцьцё. Багатыя-ж лічылі беднату за скаціну, якая ня мае правоў ні на асьвету, ні на лепшае жыцьцё. Багатыя, каб трымаць у сваіх руках уладу, усіх непакорных гналі ў турмы, секлі бізунамі, стралялі... Кожны бацька ваш ці брат можа расказаць вам хаця-б пра нядаўнае жыцьцё за белапалякамі...

Такім чынам, людзі, як мы бачым, падзелены на два лягеры, або клясы: кляса *багатых* і кляса працоўнай *беднаты*.

Паміж гэтымі клясамі на працягу сталецьцяў ішла і ідзе ўпартая барацьба... Гэта барацьба ёсьць барацьба рабочай клясы за сваё лепшае жыцьцё, за тое, каб вызваліць усіх працоўных з-пад уціску буржуяў і іх паслугачоў.

## ЦЯЖКА ЖЫЛОСЯ ПРАЦОЎНЫМ ЗА ЦАРОМ

Вельмі цяжкая і крывавая барацьба бедных за сваё вызваленьне адбывалася ў даўнейшай царскай Расіі, да якой належала і Беларусь, Украіна і шмат іншых старонак. Кіраваў былою Расіяй цар-самаўладца, які быў самым багацейшым буржуем. Гэты цар выпаўняў волю багатых. Што багатыя хацелі, тое і рабілі.

Для аховы мірнага жыцьця багатых, цар меў поліцыю і войска. І калі дзе рабочыя ці сяляне адважваліся выступіць супроць царскіх законаў, дык поліцыя і войскі жорстка распраўляліся з бунтарамі. У крыві затапляўся ўсякі голас протэсту... Салдаты, абдураныя сваім начальствам, стралялі ў сваіх-жа братоў і сясьцёр...

Даваць асьвету працоўным багатыя вельмі баяліся. З гэтай прычыны і не стараліся яны пашыраць школы для працоўных людзей. А якія адчынялі, то навучалі ў іх толькі таму, каб пакараліся дужаму, баяліся бога і цара... Гэта была такая навука, якая прыносіла карысьць толькі тым, хто меў уладу.

## „ДАЛОЎ ВАЙНУ!" „ХЛЕБА!"

Асабліва вялікі гнеў і абурэньне рабочых і сялян выбухнулі у часы вайны, што пачалася ў 1914 г.



*Захоп царскага Зімовага палацу рабочымі.*

Тры гады цягнулася жудасная вайна. Тры гады лілася дарэмна кроў рабочых і сялян. Было скалечана і забіта мільёны маладых, здаровых людзей, зруйнована тысячы вёсак і гарадоў, сапсавана акопамі і снарадамі тысячы дзесяцін лепшай зямлі...

Бачачы ўсё гэта, салдаты пачалі бунтавацца: „Што-ж мы робім, за што гінем, на што руйнуем тое, што стварылі сваім мазалём?" Салдаты пачалі разумець, што ні немец, ні француз іх вораг, а вораг іх—буржуазія, што сядзіць з заду ад фронту і нажы-

ваецца на іх крыві. Пачалі разумець, што трэба скончыць вайну, каб спыніць бескарыснае разбурэньне вёсак, гарадоў, спыніць забойства людзей...

І першымі на бой супроць свайго векавога ворага вышлі працоўныя Расіі. Пачалося ў 1917 г. з Пецярбургу (цяпер Ленінград), дзе к гэтаму часу панаваў ужо вялікі голад у рабочых сем'ях. Дарагоўля была вялізарная, а плата рабочым—мізэрная.

Галодныя рабочыя вышугнулі на вуліцы гораду з чырвонымі сьцягамі, на якіх было напісана:

„Далоў вайну!“ „Хлеба!“

Цар выставіў супроць гэтай галоднай грамады свае войска. Але (на вялікае зьдзіўленьне і цара і яго прыхільнікаў) салдаты адмовіліся страляць у рабочых і далучыліся да іх, да рэволюцыі.

І праз пяць дзён змаганьня Пецярбург стаў вольным... Гэта адбылося 22—27 лютага (стар. стылю) 1917 г.

За Пецярбургам узьняліся ўсе працоўныя, увесь фронт.

Цар быў прымушаны адрачыся ад улады. Яго заарыштавалі, а пасьля і расстралялі, як самага лютага ворага працоўных.

## ПЕРАМАГЛІ РАБОЧЫЯ І СЯЛЯНЕ

У той час, калі рабочыя і сяляне Пецярбургу і другіх месцаў распраўляліся з царом і яго прыслужнікамі, панства ня спала і організоўвала свой „часовы ўрад“. Гэты ўрад захапіў у свае рукі ўладу, а для працоўных даў безьліч абяцанак: і хутка скончыць вайну, і перадаць сялянам зямлю, і палепшыць жыцьцё рабочых...

Але рабочыя, салдаты і сяляне ня спусьціліся на ўладу паноў і мала паверылі іх абяцанкам. Яны стварылі сваю ўладу: Савет Рабочых, Сялянскіх і Салдацкіх Дэпутатаў...

Час ішоў. Мінула ўжо і лета, а панскі „часовы ўрад“ ніводнай абяцанкі і ня думаў яшчэ выканаць. Наадварот, працягваў вайну і руйнаваў фабрыкі і заводы ..

Рабочыя, сяляне і салдаты, пад кіраўніцтвам сваёй партыі комуністых, зноў падрыхтавалі паўстаньне. І 25 кастрычніка (7 лістапада па новым стылю), па загаду Пецярбургскага Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, усе фабрыкі і заводы прыпынілі сваю працу. Рабочыя, разам з салдатамі, захапілі ўсе галоўныя дзяржаўныя ўстановы Пецярбургу. Пасьля маленькай бойкі „часовы ўрад“ здаўся.

У гэты-ж час адбываўся Усерасійскі Зьезд Саветаў Рабочых, Сялян і Салдат.

*Т. Ленін, правадыр рабочых і сялян, абвясьціў на гэтым зьезьдзе Савецкую Уладу, уладу саміх рабочых і сялян.*

Такім чынам працоўныя здабылі сваю волю. Гэтую волю працоўныя цьвёрда і рашуча баранілі на працягу яшчэ некалькіх год пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі ад розных царскіх генэралаў і заходняй буржуазіі. Перамаглі рабочыя і сяляне.




**Верш Я. КОЛАСА** **Мал. ГУТКОЎСКАГА**

*Бушавала бура з сілай нячуванай,*
*А вы шлі напорна крокам нястрыманым.*
*Вар'яцела мора, пеніліся хвалі,*
*А вы шлі няспынна—вабілі вас далі.*
*Бухалі гарматы, грукацелі громы,*
*А вы шлі наперад віхрам-бураломам,*
*Разьбівалі ковы, векавыя путы,*
*А на кожным кроку ворагзлы і люты.*
*І было змаганьне, ой, было змаганьне!*
*Не хацеў стары сьвет страціць панаваньня.*
*Каледзін, Карнілаў, Колчак і Дзянікін—*)*
*Шла навала супраць у шаленстве дзікім.*
*І каваў кайданы вораг заграніцай,*
*Ды ніхто ня здолеў той жывой крыніцы.*
*Ліха, небясьпека ўсюды вас чакала—*
*Згінула ў дарозе змагароў ня мала.*
*А дарога ваша—горы, перавалы,*
*Але ўсё здалелі рацi занядбалых.*
*Пройдзен шлях пачэсны, трудны і вялікі,*
*Не зальле яго той шквал шалёна-дзікі,*
*Што падняць гатовы Чэмбэрлен**) зацяты,*
*Кінуты па сьвеце добрыя зярняты.*
*Вышлі зерні тыя ў шоўкавыя руні—*
*Праўдай сталі вашы мары аб комуне!*

1927 г.

*) Царскія генэралы, якія змагаліся супроць рэволюцыі.

**) Чэмбэрлен—быўшы міністар па замежных справах буржуазнага ангельскага ўраду. Ен праз увесь час організоўваў сваю буржуазію і іншыя буржуазныя дзяржавы для таго, каб зьнішчыць Савецкі Саюз. Але ніякія спробы буржуазіі і іх прыслужнікаў не перамогуць магутнасьці краіны саветаў. Савецкі Саюз расьце і мацнее.

# МАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ГУЛЬНЯ

*Успаміны змінулага А. ПОЛЯКА*

*Малюнкі РОЗАНАВА*

ПАМЯТНЫ мне жудасныя песьні гармат мінулай вайны з бела-палякамі. З таго часу прайшло 10 год, але малюнкі мінулага так ясна паўстаюць перада мною, як-бы ўсё гэта здарылася толькі ўчора.

Тады мне было шэсьць гадоў, а Міхаську, майму брату—пяць.

Польская вайсковая часьць спынілася ў нашай вёсцы. Начальнік разьмеркаваў сваіх салдат па сялянскіх хатах. І наша цесная хатка зрабілася кватэрай „пана“ (так мы называлі ўсіх польскіх жаўнераў—салдат).

Міхаська і я кожны дзень чулі гутаркі большых пра вайну, якая адбывалася ў той час паміж бальшавікамі (чырвонаармейцамі) і бела-палякамі.

Мусіць гэта і прымусіла нас часта гуляць „у вайну“. У нас каштаны былі сапраўднымі чырвонаармейцамі, ябыкі—палякамі. Я камандаваў чырвонай арміяй, а Міхаська быў „панам начальнікам“ белай польскай арміі. Я, як старэйшы, гэтак спрытна вёў гульню, што мая чырвоная армія заўсёды разьбівала палякаў дашчэнту.



У гэты час наш кватарант коса пазіраў на мяне, але я ня цікавіўся тым, што ён сочыць за намі.

Вось аднаго разу мы распачалі сваю каханую гульню. Пан, з люлькай у зубах, паважна адпачываў пасьля абеду. Мама калыхала маленькую Ганульку і адначасова карміла кіслым малаком Паўлінку, другую нашу сястрыцу.



*Паглядзімо, хто сёньня будзе разьбіты...*

Таты ня было дома: яго палякі пагналі ў падводы.

Гульня захапіла нас. Адбывалася страшэнная бойка...

Пан павярнуўся набок ды і кажа:

— Паглядзімо, хто сёньня будзе разьбіты...

Па-праўдзе кажучы, тут і глядзець ня было чаго. Канец гульні паказаў: палякі часткаю былі патоплены ў рэчцы, а рэшта ўзяты ў палон бальшавікамі.

Тут сэрца пана ня вытрымала. Схапіў ён бізун ды і пачаў лупцаваць мяне.

— „Вось табе, вось табе, пся крэў, бальшавікі! Будзеш ведаць, як зьдзеквацца над польскімі жаўнерамі!“



*Бізун, як зьмяя, абвіўся каля мяне.*

Бізун, як зьмяя, абвіўся каля мяне. Я пачаў крычаць, плакаць, прасіць ратунку, але бізун усё мацней і мацней упіваўся ў маё цела. Міхаська таксама загаласіў на ўсё горла. Гэты зык падхапіла і Паўлінка, а потым моцна заплакала і Ганулька.

Як птушка, што змагаецца з моцным драпежнікам за жыцьцё сваіх дзяцей і ставіць пад пагрозу сваё жыцьцё, так і мая мама кінулася да азьвярэлага пана.

У гэты момант сьвіснуў бізун у паветры і пан дзіка закрычаў:

— „Цыц! заб‘ю!“

Я бачыў, як з вачэй мамы ліліся сьлёзы. Яна схапіла мяне і палажыла на пасьцель, але я ня меў магчымасьці ні ляжаць, ні сядзець. Цэлых два тыдні пакутаваў я, а разам з гэтым яшчэ больш пакутавала мая дарагая мама.

Вось як скончылася мая дзіцячая гульня.



# СОН АЛЯКСЕЯ

*Па Ю. УЛАДЗІМЕРАВУ*



Як заснуў Аляксей,
Як захроп Аляксей,
Толькі шум гудзе,
Праз цалюткі дзень,
Аж страхаюцца ўсе.
Мы яго будзілі,
Ў барабаны білі
У званкі званілі,
Яму крычалі ўсе:
„Уставай, Аляксей!"
А ён—хоць-бы што:
Так заснуў, як ніхто.

* * *



Далі сыгнал, што заснуў Аляксей,
Заклікалі дваццаць пажарных час-
цей.
Прыехаў пажарны з даўгой барадою,
Загадаў палівацъ Аляксея вадою.
Палівалі хлапца, хто жадаў, хто ха-
цеў...
Усе студні зьмялелі, аж Нёман зьмя-
леў,
Перасохлі і рэкі, і балоты ўсё,
Толькі-ж сьпіць сабе соладка наш
Аляксей!

* * *



Паклікалі ў хату аж сто сілачоў,
Сотню музыкаў ды сто трубачоў.
Музыкі-малойцы як дружна зайгралі,
Аж струны парвалі, смычкі паламалі.
Сто трубачоў як пачалі трубіць,
Як пачалі трубіць, Аляксея будзіць,
А сілачы як пачалі скакаць,—
Як пачалі скакаць ды гіры шпуляць,—
Нават дом, як асіна, стаў страшна
дрыжаць...
Але наш Аляксей і ня думаў уставаць...



* * *

Паклікалі роту чырвонаармейцаў.

„Заўсёды гатовы мы, разумеецца!“—

Адказалі чырвонаармейцы.

Ля хаты паставілі сотню гармат,

У кожную з іх улажылі снарад,

З гарматаў стралялі аж пот высту-
паў.

А наш Аляксей усё спаў ды спаў.

* * *

Памчаліся часьці пажарных з вадою

Паехаў іх старшы з даўгой барадою,

Пашлі адпачываць у цырк сілачы,

Зьбеглі за імі усе трубачы,

З маршам пашла, разумеецца,

Адважная рота чырвонаармейцаў.

Мама падышла да Аляксея ранічкай:

„Хочаш, Аляксейка, мяккага абара-
начка?“

Як прачнуўся Аляксей,

Як устрапянуўся Аляксей,

Дык калі крыкне Аляксей

За ўсіх мацней

Ды галасьней:

„Давай!“

А. Якімовіч.

(з расійскае мовы).



# ПАРТРЭТ

*Апавяданьне*

*СЫМОНА БАРАНАВА*



*Ленін у трохгадовым узросьце.*

ПЕРАДА мною ляжыць партрэт. Мой бацька толькі што яго прынёс. Ішоў з фабрыкі і купіў яго ў таго, што прадае кніжкі.

Канешне, вы ніхто ня ведаеце, які гэта партрэт? Але я зараз скажу. Гэта— дарагі партрэт. Я нядаўна пачаў яго ведаць. Я быў яшчэ малым, таму і нядаўна пачаў яго ведаць. І цяпер я, унь, як добра ведаю! Нам апавядаў у школе наш настаўнік пра гэты партрэт.

О, настаўнік шмат і вельмі доўга апавядаў пра гэтага чалавека, што на партрэце!

Гэты партрэт ёсьць у нашай школе. Але там большы, куды большы за гэты, што купіў мой бацька. Там ён у цяжкіх такіх рамках. За шклом.

І я, канешне, таксама паклапачуся, каб асадзіць у рамкі і каб зашкліць мой гэты, найдарагі партрэт!

Я ўглядаюся ў гэты партрэт і разважаю сам сабе:

— Гэты чалавек з'арганізаваў людзей,—так казаў наш настаўнік. — Гэты чалавек павёў за сабою людзей для вызваленьня іх з векавечных путаў капіталу. Усім бедным хочацца, каб лепей жыць,— казаў настаўнік далей, — і гэты чалавек зрабіў пачатак лепшаму жыцьцю бедных людзей. Гэтага чалавека ніколі не забудуць працоўныя ўсяго сьвету. Ён паказаў ім (тым, хто працуе) вольную дарогу. Ён быў іх правадыром.

— Дык дзіва, што я буду любіць гэты партрэт! Гэты дарагі такі партрэт! У майго бацькі таксама-ж нічога такоўскага з багацьця няма. Бацька мой працуе на заводзе, ці ня толькі атрымаў учора палучку. Бо ён купіў і прынёс учора абганяных круп, купіў цукру і яшчэ там нечага. А сёньня купіў партрэт. Дык мне здаецца, што таварыш Ленін,—каб жыў быў—любіў-бы і майго бацьку

і ўсіх нас. Ён ня выкінуў-бы нас тады з таго гурту людзей, якіх вёў 12 год таму назад для канчатковага вызваленьня іх з векавечных путаў капіталу, з бяспраўнасьці, з няволі.

— Добры мой, прыгожы мой партрэт!

*
* *

Калі я яшчэ ўглядаюся цяпер у твар Леніна, дык да чаго гэты твар робіцца мне дарагім, да чаго мілым тварам.

Я гляджу на яго няміргаючымі маімі вачыма. Я гляджу і мае вусны шэпчуць самі па сабе:

Мой ты Ленін,
Як я цябе люблю
Моцна, моцна,
Калі я падрасту,
Я ў тваю партыю ўступлю.

І калі я яшчэ і яшчэ ўглядаюся ў партрэт Леніна, мне нават, і нават унь як—ня то што, а дарагім робіцца яго, Ленінаў, гальштук, гэты яго ланцужок ад гадзіньніка, гэтыя два гузікі, што відаць на гамзэльцы, плеценае крэсла, на якім ён сядзіць, яго вожыкава бародка...

— Мілы Ленін, мой Ленін!

— Калі я вырасту, я канешне што ўступлю ў тваю партыю,— кажу я, гледзячы на партрэт. Усёроўна ўступлю! Я буду комуністым, як мой бацька. Я буду рабіць усё тое, што ты пакінуў у сваіх заветах.

Я цяпер бяру са стала мой партрэт. Асьцярожна паднімаю і прыкладаю да сьцяны. Па рагох партрэта я заціскаю маім вялікім пальцам прыколкі і так, каб не папсаваць у партрэце ражкоў.

— Дзядзькі Міхася папрашу зрабіць асадку, — вырашаю я, — яму-ж гэта ня цяжка. Ён-жа ценгле сярод стружак...



*Л. ЧАРНЯЎСКАЯ*

# ГАЛЬКА



*На-ж табе цукерку, калі ты ўжо ўсё разумееш.*

Сеецца з хмары дробны дожджык. Намякла зямля. Галька сядзіць ля вакна і глядзіць на мокрую дарогу, на шэрае неба. Нудна Гальцы. Раптам саскочыла яна босымі ножкамі з лавы на падлогу.

І просіць большую сястру:

— Ганначка, здымі ты мой каптанік.

Сама Галька ня можа дастаць сваю вопратку. Цьвік высока ўбіты ў сьцяну.

— Куды цябе гоніць такім надвор'ем?—стрымлівае Гальку матка.

— Да Лукашонкаў пайду. Іхны Іван з гораду прыехаў. Бачыла ў вакно: паехалі калёсы на двор.

— І табе туды трэба? Госьць на парог, а ты за ім сьледам. Каб падумалі, што ты па цукерку прыбегла...—упікае ёй старэйшая сястра.

— А вось пайду. Што мне ўсё з вамі сядзець. Іван з гораду прыехаў, цікава...

Потым дадае:

— А калі цукерку дасьць, дык зьем.

— Ідзі сабе,—дазваляе матка.—Ты-ж у нас самая разумная,—кажа яна з усьмешкаю.

Гальцы шэсьць гадоў. Яна лічыць сябе зусім вялікай, усё робіць з сур'ёзным выглядам, стараецца гаварыць і нават сьмяяцца тоўстым голасам: гу-гу-гу!

Прышла яна ў Лукашонкаву хату і ціханька стала ў куточку, ля печы. Глядзіць на гарадзкога госьця.

А госьць, глянуўшы на Гальку, пазнаў яе і прывітаўся:

— Галька прышла? Ну, як жывеш, гадуешся?

Галька сьмялей падступае з свайго кутка.

— Добра жыву,—кажа яна ціханька. Хоча і ня ведае, што-б такое расказаць новаму чалавеку.

— А мама ўчора з татам сварылася, што апошнюю дойную карову прадаў. Дык тата ўгневаўся і кінуўся біцца,—пачала яна гаварыць.

— А ты бараніла маму?

— Не, мама пачала апранацца, кажа: пайду ў сельсавет, ня маеш права біцца. Дык тата спужаўся...

— Цяпер няма права біцца,—упэўнівае ўсіх Галька.

— Правільна!—кажа госьць.—На-ж табе цукерку, калі ты ўжо ўсё разумееш.

Галька бярэ цукерку і адыходзіць забаўляць малога Лукашоначка, які дагэтуль спаў, а цяпер закрахтаў у сваёй люльцы.

Малы сагнуўся ў кручок, дужыцца падняцца ды сесьці. Галька дае яму свой палец. Ён сьціскае ў кулачок Гальчын палец, падымаецца, падымаецца ды назад валіцца.

Галька забаўляе малога ды настаўляе вушы: пільна слухае, аб чым гамоняць у хаце.

Нагуляўшыся ў суседзяў, ідзе яна дамоў. А дождж, тымчасам, расхадзіўся не на жарт. Аж цурчыць са стрэх. Пакуль перабегла Галька праз вуліцу, уся хустачка на галаве зрабілася мокрай.

— Ну што ты там чула?—чапае яе маці.

Галька абтрасаецца ад дажджу.

— Усё чула. Казаў дзядзька Іван, што трэба, каб у колектыў ішлі.

— Які калятыў?—жартуе, нібы не разумее маці.

— Колектыў, кажу—гневаецца Галька.—Вялікая, а гаворыш, як малая. Казаў дзядзька: разам вам усім трэба сабрацца ў колектыў,—вымавіла старанна Галька,—трэба ісьці. А то век хлеба



*І маці нахіналася разам з дачкою над кніжкай.*

досыць ня будзеце мецъ на лядаштым вузенькім загончыку. Нічога радзіць ня хоча, казаў ён, калі зямлі добра не ўрабіць. А без такіх машын, пра якія казаў ён, нельга добра і ўрабіць зямлю.

— Гэта-ж праўда, дачушка, што жывём мы неяк ня так, як трэба. Але дзе нам дастаць тых машын?—ціхім голасам выказала свае думкі маці.

А Галька ўсё расказвала:

— Машыны ў нас будуць, калі колектыў будзе. Дадушы, мама, казаў,—ёсьць такая машына, што без каня ідзе і ўсё рабіць умее: і араць і малаціць.

— Гэта трактар,—падала голас большая сястра.—Мы ў школе чыталі. І ў кніжцы намалёвана. Едзе такая машыніна, а чалавек на ёй сьпераду сядзіць і кіруе.

— Трактар?—стараецца затрымаць у памяці гэтае слова Галька.

— Машына такая, стукоча-грукоча так: вух-вух-вух-вух, казаў дзядзька.

І выставіўшы грудзі наперад, вухаючы, паплыла Галька па хаце.

Потым ласкавенька папрасіла сястру:

— Ганначка, пакажы ты мне ў кніжцы тую машыну.

Доўга разглядала Галька малюнак, дзе ўздымае трактар цаліну плугамі.

І маці нахінался разам з дачкой над кніжкай, і гэта, ня зусім для іх зразумелая, машына зрабілася блізкім, сваім, пільна патрэбным.

**ЧАРГОВЫ НУМАР ЧАСОПІСІ — БУДЗЕ РАЗАСЛАНЫ — ПАДПІШЧЫКАМ 20 ЛІСТАПАДА.**

## АХВОТНІК ДА МЁДУ.



*Ідзе па мёд.*



*Чэрпае.*



*Зачэрпаў...*

# ВЯЛІКАЕ БУДАЎНІЦТВА



Пасьля вайны з белапалякамі Беларусь борзда пачала залечваць свае раны, якія прынесла ёй вайна. Дзяржава рабочых і сялян усе свае сілы аддае на тое, каб пабудаваць многа фабрык, школ, дамоў і ўсяго, што ўзбагачае краіну і паляпшае жыцьцё працоўных.

Кожны год у гарадох, мястэчках, вёсках вырастаюць усё новыя і новыя муры. Мільёны рублёў грошай траціцца дзяржавай кожны год на будаўніцтва. Дзесяткі рабочых заняты вялікай справай: будуюць на руінах старога жыцьця новую Савецкую Беларусь.

Асабліва шырокі размах будаваньня ў сталіцы Беларусі — *Менску*. На днях упяршыню па вуліцах Менску пабеглі трамвайныя вагоны. А з год таму назад па Менску, як старая бабуля, цёгалася яшчэ „конка“. (У наступным нумары мы надрукуем асобны нарыс з малюнкамі пра Менскі трамвай).



*А які-ж, ліха яму, горкі мёд!*

У гэтым годзе канчаюць будаваць у Менску цэлы гарадок для вышэйшай навучальнай установы—Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

На пабудову яго будзе затрачана некалькі мільёнаў рублёў. Аж тры кварталы (горад падзяляецца на чатырохкутовыя пляцы-кварталы, якія абкружаны вуліцамі) займаюць прыгожыя, новенькія будынкі гарадка навукі.

Даўней, да рэволюцыі, буржуі, якія мелі ў сваіх руках усе грошы і ўладу, будавалі такія дамы для сваіх асабістых патрэб. Цяпер кожная капейка дзяржавы, дзе гаспадараць рабочыя і сяляне, ідзе на агульную карысьць.

На фотографіі—будуюць унівэрсытэцкі гарадок, рабочыя носяць высока ўгару па ўсходах цэглу.

# Казачка пра сьмелага зайца Доўгія вушы, Касыя вочы, Кароткі хвост





Радзіўся ў лесе зайчык і ўсяго баяўся. Ці трэсьне дзе сучок, ці ўспырхне птушка, ці скінецца з дрэва камяк сьнегу—у зайчыка кроў зьледзянее.

Баяўся зайчык дзень, баяўся два, баяўся тыдзень, баяўся год... А потым, як вырас вялікі, абрыдла яму ўсяго палохацца.

— Нікога я не баюся!—загукаў ён на ўвесь лес.—Ані не баюся!

Сабраліся старыя зайцы, прыпаўзьлі маленькія зайчанята, прывалакліся пажылыя зайчыхі,—усе слухаюць, як хваліцца заяц Доўгія-вушы Косыя-вочы Кароткі-хвост,— слухаюць і сваім вушам ня вераць. Яшчэ ніколі гэтага ня было, каб заяц нікога не баяўся.



— Гэй, ты, Косае-вока, можа ты і воўка не баішся?

— І воўка не баюся, і лісіцы, і мядзьведзя,— нікога не баюся!



Гэта ўжо было сьмешна. Хукнулі маладзенькія зайчаняткі ў свае пярэднія лапкі, засьмяяліся добрыя бабулі-зайчыхі, нават пажылыя зайцы ўсьміхнуліся, успомніўшы, як у лапах у лісіцы пішчалі, бывала, або ўспомніўшы воўчыя зубы.

— Вельмі сьмешны заяц!

— Ох, які ён сьмешны!..

І ўсім стала весела. Пачалі куляцца, бегаць, скакаць, нібы падурнелі ўсе.

— Ды што тут доўга развважаць!—закрычаў заяц, які ўжо зусім асьмялеў.—Калі мне пападзецца воўк, дык я яго і сам зьем...

— Ох, які сьмешны заяц! Ох, які ён дурны заяц!



Крычаць зайцы пра воўка, а ён тыц сюды, як запрошаны.

Хадзіў ён па лесе па сваіх воўчых справах, выгаладаўся і толькі падумаў: „як добра было-б паласавацца зайчыкам!“ — як чуе, недзе блізка зайцы крычаць і яго, шэрага воўка, успамінаюць. Зараз-жа ён спыніўся, панюхаў паветра і пачаў падкрадацца да іх.



Зусім блізка падпоўз воўк да зайцоў. Чуе, што зайцы сьмяюцца з яго, а больш за ўсіх сьмяецца забіяка заяц Косыя-вочы Доўгіявушы Кароткі-хвост.

— Ага, браток, пачакай-жа трошкі, цябе-ж я і зьем!—падумаў воўк і пачаў разглядаць, каторы гэта заяц так храбрыцца.

А зайцы нічога ня бачаць і ня чуюць: ім усё весялей робіцца.

Скончылася на тым, што забіяцкі заяц вылез на пяньчук, сеў на заднія лапкі і кажа:



— Слухайце вы, трусы! Слухайце і глядзеце на мяне. Вось я вам пакажу адну штуку... я...я...я...

Тут язык у сьмелага зайца як адмёрз: заяц убачыў воўка, які вызьвярыўся проста на яго. Другія зайцы ня бачылі, а ён бачыў і баяўся дыхнуць.



А потым сталася нешта нязвычайнае. Заяц-забіяка падскочыў уверх, як мячык, і, з перапалоху, упаў проста на шырокі воўчы лоб, пракаціўся па воўчай сьпіне, перакуліўся яшчэ раз у паветры і потым, колькі духу хапіла, памчаўся, нібы хацеў вылузацца з сваёй шкуры.

Доўга бег бедны зайчык, аж пакуль ня выбіўся з сілы.

Яму здавалася, што воўк яшчэ ляціць за ім сьледам і вось-вось схопіць яго сваімі зубамі.

Зусім выбіўся з сілы, бедненькі, заплюшчыў вочы і, як мёртвы, кінуўся пад кусьцік.

А воўк тым часам бег у другі бок. Калі заяц упаў на воўка, яму здалося, што хтосьці стрэліў яму ў лоб. І воўк уцёк.

Доўга не маглі апамятавацца ўсе зайцы. Хто ўцёк у кусьцік, хто схаваўся за пянёк, хто залез у ямку.

Нарэшце ўсім надакучыла хавацца і пачалі патрошку выглядаць, хто быў сьмялейшы.

— Ну, і здорава напалохаў воўка наш заяц!—згадзіліся ўсе.— Калі-б ня ён, дык сьмерць-бы ўсім нам на месцы. Але дзе-ж ён, наш сьмяляка заяц?

Пачалі шукаць.

Хадзілі, хадзілі, няма нідзе сьмелага зайца.

— Ці ня зьеў яго, часамі, другі воўк?

А потым такі знайшлі: ляжыць сьмелы заяц пад кусьцікам, ледзь дыхае пасьля перапалоху.

— Маладзец, Касавокі!—закрычалі ўсе зайцы ў адзін голас.— Ну, і Касавокі-ж!.. Здорава-ж ты напалохаў старога воўка! Дзякуем, браток! А мы думалі, што ты дарэмна хвалішся!

Сьмелы заяц адразу падхрабрыўся. Вылез з свае ямкі, сьцярухнуўся, прыжмурыў вочы і сказаў:

— А вы як думалі! Эх, вы, трусы!..

З гэтага дня сьмелы заяц пачаў і сам верыць, што ён такі і сапраўды нікога не баіцца.



# НЯНЬКА

**Па А. Чэхаву.**



*А Жэньцы, ой, як хочацца спаць...*

НОЧ. Малая дзяўчынка-нянька калыша калыску і паціху мармыча:

**„Люлі-люлі-люлі,**
**Усе коцікі паснулі...“**

У хаце духата. Пахне капустай ды скурамі. Супраць кута гарыць лямпа. Праз усю хату працягнута вяроўка, на якой вісяць розныя пялёнкі, мокрыя анучы...

Дзіця ў калысцы плача. Яно ўжо даўно асіпла ад крыку, але ўсё плача і няма-ведама калі перастане.

А няньцы Жэньцы, ой, як хочацца спаць. Ужо каторую ночку на волас не скархнула дзяўча. Усё няньчыць крыклівае дзіцянё.

**„Люлі-люлі-люлі,**
**Прыляцелі куры,**
**Селі на варотах,**
**У чырвоных ботах...“**

У хаце ўсё сьцішэла. Толькі пад прыпечкам цырыкае цвыркунчык, ды за дашчанаю сьцяною храпе гаспадар-шавец і яго чаляднік, Апанас... Калыска жаласна рыпае, сама Жэнька мармыча—і ўсё гэта зьліваецца ў такую ціхую прыемную музыку, якую так соладка слухаеш, калі звычайна кладзешся ў пасьцель. Але для Жэнькі гэта музыка горш за ўсялякую лаянку... Такі спакойны вячэрні час няміласэрна наганяе сон. А ці-ж можна заснуць Жэньцы? О, не! Тады скалечаць яе злыя гаспадары, выганяць у чыстае поле. А дзе падзецца сіраце? Матка Жэнькі сама сябе ледзь жывіць. Бацькі няма. Прыходзіцца малой працаваць і цярпець у чужых людзей.

Цені ад лямпы і мокрых ануч мітусяцца. Жэньцы здаецца, што гэта ня цені, а цэлыя хмары. Гэтыя хмары даганяюць адна другую, лётаюць па небе і крычаць, як дзіця. Але вось дзьмухануў вецер і ўсе хмары рассыпаліся. Заместа іх, Жэнька ўбачыла шырокую дарогу, на якой роўна

**ЗДАРЭНЬНЕ З ПІОНЭРАМ У АФРЫЦЫ.**

*(Жарт).*



*Нехта без галавы ў сьветлым адзеньні ўначы даганяе піонэра...*

**(Далей глядзі на адвароце).**



*Піонэр ніколі ня бачыў яшчэ такіх людзей...*



*Такі дзіўны чалавек дасьмерці напалохаў нашага піонэра.*



*І што-ж-вы думалі: безгаловы чалавек—негрыцянскі піонэр! Чорная яго галава зьлілася з цеменьню ночы*

па пояс гразі. А на дарозе процьма людзей, вазоў, жывёлы. Раптам усё гэта падае ў рэдкую гразь.

— „Навошта?“ — пытае Жэнька.—„Спаць, спаць!“—кажуць усе.

І яны сьпяць моцна, соладка. А на тэлеграфных слупох крычаць бязупынку вароны і сарокі, як дзіцянё ў калысцы, і стараюцца пабудзіць усіх. Ад іх крыку прахапілася і Жэнька. Яна борзда моргае вочкамі і сьпявае:

**„Пашоў коцік у лясок,**
**Злавіў рыбку за хвасток...“**

Вочы зноў плюшчацца, і зноў усплываюць перад вачыма новыя малюнкі. Успамінаецца, як прышла маці з бальніцы і сказала:

— Раненька сёньня сканаў, пакойнічак... Кажуць дактары, позна агледзеліся, трэба было раней. А так памёр бацька...

З такой крыўды ідзе Жэнька ў лес і там горка плача. Але вось нехта падбягае да яе, б‘е ў патыліцу так, што яна моцна стукаецца галавою аб елку. Яна расплюшчвае вочы і бачыць перад сабою гаспадарашаўца.

— Ты што-ж гэта, недавярак?— кажа ён.—Дзіця плача, а ты сьпіш?

Ён моцна трасе яе за вуха, а яна цярпіць і мармыча сваю песьню.

Але толькі адышоўся гаспадар, сон зноў узяў верх. Зноў тая-ж дарога, людзі, усе моцна і соладка сьпяць. Жэньцы таксама вельмі-ж хочацца легчы, але матка яе, Паладзя, ідзе поруч і падганяе дачку. Абое яны жабруюць.

— Падайце бедным, калі ласка!— просіць матка ў людзей.

— Падай сюды дзіця!—адказвае ёй нечый знаёмы голас.

— Падай сюды дзіця!—зноў крычыць той-жа голас, ужо моцна і сярдзіта—сьпіш, нягодніца?

Жэнька прачынаецца і адразу бачыць, што такое сталася. Гэта гаспадыня ўстала і прышла карміць дзіця.

За вокнамі ўжо сінееца неба. Скора разьвідніцца.

— Вазьмі!—кажа гаспадыня, зашпільваючы на грудзях сарочку.— Плача, бо, мусіць, уракле дзіця... дадае яна і ідзе спаць.

Жэнька бярэ дзіця, кладзе ў калыску і зноў пачынае калыхаць. Цені ад лахманоў зьнікаюць, бо ўжо віднее, і цяпер няма чаму лезьці ў галаву і туманіць думкі. А спаць хочацца ўсё так-жа. Жэнька чэрпае конаўку вады і прамывае кожную хвілінку вочы.

— Жэнька, запалі ў печы!—чуваць праз дзьверы голас гаспадара.

Значыць ужо дзень і пара брацца за работу. Жэнька пакідае калыску і бяжыць па дровы. Яна рада. Цяпер, калі бегаеш, ня так хочацца спаць. Яна адчувае, што цела яе выпростваецца і праясьняюцца думкі.

— Жэнька, пастаў самавар!—крычыць гаспадыня.

Але толькі яна сабралася чысьціць самавар, як чуе ўжо новы загад.

— Жэнька, пачысьці галёшы!

Яна садзіцца на падлогу, чысьціць галёшу і думае, што вось добра было-б усадзіць галаву ў вялікую галёшу і падрамаць усмак... І раптам галёша пухне, шырыцца. Жэнька выпускае з рук шчотку. Але зараз-жа да яе варочаецца памяць і яна трасе галавой, разьдзірае вочы і стараецца глядзець так, каб прадметы не варушыліся ў яе вачох.

— Жэнька, памый усходкі, а то ад заказчыкаў брыдка!

*Яна расплюшчвае вочы і бачыць перад сабою гаспадара-шаўца.*

Жэнька мые ўсходкі, прыбірае хату, потым паліць у другой печцы і бяжыць у краму.

Работы многа, няма ніводнай хвілінкі вольнай. І гэтак кожны дзень, бяз сну, без адпачынку пакутуе бедная сірата Жэнька. Бязьлітасны гаспадар ня мае сэрца да чужога дзіцяці.

*А. Якімовіч.*

(з расійскае мовы).

## АД РЭДАКЦЫІ

**Ніхто з гаспадароў-наймальнікаў ня мае права прымушаць працаваць дзяцей цераз сілу. Савецкая ўлада выдала такі закон, які забараняе гаспадаром зьдзеквацца з батрачат і няняк. Гаспадар, які не зважае на закон, не абыходзіцца з нянькай як належыць па закону, павінен быць пакараны. Аб такім гаспадары трэба пісаць нам у рэдакцыю.**

# Казка пра каменны вугаль

*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ.*



*Глыбока ў зямлі, у цеснай яме ляжыць чалавек.*

НАПРАЦАВАЛІСЯ дзеці за цалюткі дзень. Увечары паселі ціханька ў хаце ля цёткі Веры і папрасілі яе расказаць казку.

У хаце было цёпла, а на дварэ вялікі мароз быў, зіма ўжо прышла.

— Ну, дзеткі, слухайце ўважна, я раскажу вам цікавую казку.

„Глыбока ў зямлі, у цеснай яме ляжыць чалавек. Уся яма чорная, замазаная вугольлем. У руках у яго гостры молат. Гэтым молатам чалавек адламлівае цьвёрды, як камень, бліскучы вугаль. Страшна тут! Няма сьвятла, цесна, мала паветра, духата, аж пот аблівае ўсё цела.

Што-ж гэта за чалавек такі? Што ён робіць? Гэта рабочы-шахцёр. Ён здабывае каменны вугаль, каб ім людзі маглі ацяпляць свае будынкі, паліць яго ў паравозах, на заводах.

Без каменнага вугалю наша краіна не магла-б жыць. Не працавалі-б заводы, не хадзілі-б цягнікі, не працавалі-б млыны, электрычныя станцыі, трамваі, параходы.

Адкуль-жа ўзяўся пад зямлёю каменны вугаль?

Даўно калісьці, на зямлі расьлі лясы вялікія і густыя.

Няпрыветнымі і хмурнымі былі тады лясы-волаты: ні кветак, ні птушак, ні казюлек, ні зьвяроў у лесе ня было. Тады было вельмі цёпла на зямлі.

Зямлю часта затапляла мора і лес той гніў пад вадою. З гісторыі зямлі вядома, што суша і мора часта мяняліся месцамі: то мора наступае на сушу, то суша на мора. Пэўна-ж гэта рабілася не на вачох людзей. Для гэтага патрэбны дзесяткі і сотні тысяч гадоў.





*Без каменнага вугалю не працавалі-б заводы, не хадзілі-б цягнікі, параходы.*

Доўга-доўга гнілі дрэвы і расьліны пад морскай вадой. Яны заплылі гразёю, пяском, глінаю, рознымі морскімі жывёламі. Так праходзілі тысячы гадоў, пакуль мора не зацягнулася зямлёю нагэтулькі, што вада прымушана была сыйсьці з свайго месца, пакінуўшы пасьля сябе сухую зямлю. Там, дзе раней было мора, стала суха; мора-ж цяпер адлілося ў больш нізкую мясцовасьць.

Дрэвы перагнілі і зрабіліся цьвёрдымі, бо зьверху на іх ціснула зямля. Гэтыя перагніўшыя, сьціснутыя дрэвы і стварылі каменны вугаль.

Людзі, калі даведаліся пра вугаль, пачалі здабываць яго з зямлі. Пачалі спачатку капаць глыбокія ямы-студні. Гэтыя ямы завуцца шахтамі. На невялікім кавалку зямлі (некалькі дзесяцін) робяць шмат такіх шахтаў. А між шахтамі, глыбока пад зямлёй, капаюць калідоры ў розныя бакі. Калі шахта гатова, туды спускаюцца рабочыя.

Спусьціцца рабочы ў шахту, а яго там усяго вада запырскае, як дождж. Гэта падзямельная вада. Яе ўвесь час выпампоўваюць спэцыяльнымі машынамі. Калі-б не выпампоўвалі вады, дык яна затапіла-б усю шахту. Рабочыя, якія выпампоўваюць ваду, увесь час стаяць у вадзе ды брудзе. Рабочыя адзяюць такую вопратку, праз якую вада ня можа прасачыцца.

Цяжка даводзіцца і тым рабочым, што забіраюць гатовы вугаль ды звозяць на ваганетках да шахтаў, адкуль ён падымаецца наверх.

Цяжкая шахцёрская работа. А колькі дабра робіць шахцёр для ўсяе краіны!

*Н. Іванчэнка.*

(з украінскае мовы).



*Расьлі лясы вялікія і густыя.*



*Калі шахта гатова, туды спускаюцца рабочыя.*



# Зосіна кніжка

*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ*

Маленькай Зосі восьмы год. Яна ў сям'і ня лічыцца маленькай дзяўчынкай, бо ўжо дапамагае матцы няньчыць свайго брата Рыгорку, калі маці ідзе на работу.

У Зосі ёсьць і старэйшы брат, Андрэй, які вучыцца ў школе. У Андрэя ёсьць кніжкі. Здаецца разглядала-б і разглядала-б іх Зося. Там такія прыгожыя малюнкі! Нават і ўсе зьвяры ёсьць. Ёй нядаўна паказваў Андрэй на малюнку і тыгру, і насарога, і львіцу з ільвянятамі і шмат іншых зьвяроў.

Але Андрэй не дае доўга разглядаць Зосі кніжкі.

— Ты яшчэ літар ня ведаеш, чытаць ня ўмееш, толькі кніжку мне падзярэш. Будзеш у школу хадзіць—будзе і ў цябе свая кніжка,— кажа Андрэй.

— А ці цяжка чытаць навучыцца?—пытаецца Зося.

— Пойдзеш у школу—убачыш, ці цяжка,—адказвае Андрэй.

— Ты навучы мяне чытаць,— просіць Зося.

— Пачакай, Зося, скора і ты будзеш кніжкі чытаць.

І Зося пачала чакаць. Кожны дзень яна чакала брата і глядзела яму ў вочы, а калі-небудзь і пыталася:

— Ну, Андрэй, можа сёньня?

І аж сумна станавілася, калі Андрэй казаў: „Пачакай, пачакай, яшчэ кніжка твая ня прыехала“.

— Адкуль-жа мая кніжка павінна прыехаць?—думае Зося.—І якая яна будзе?

Нават і ў сьне бачыла Зося сваю кніжачку. Яна здавалася ёй прыгожай, з малюнкамі, з разборчывымі вялікімі літарамі. І яна, Зося, ужо ўмее чытаць. Прачнецца Зося і шкода ёй, што яна прачнулася і што ў яе няма кніжачкі.

Вось аднаго разу вязе Зося па вуліцы ў калясцы свайго брата Ягорку і бачыць, што са школы бягуць вучні. Да яе падбягае Андрэй і кажа:

— Ну, Зоська, кніжка твая прыехала з самага Менску. Хадзем у хату—пакажу.

У хаце Андрэй паклаў кніжкі на стол, дастаў паміж іх прыгожанькую кніжачку і дае Зосьцы:

— На, Зоська, вось твая кніжачка. Цяпер ты хутка навучышся чытаць і яшчэ больш палюбіш кніжкі. Бачыш на ёй напісана **„Іскры Ільліча“**. Сёньня я табе пачытаю яе, а потым пачну вучыць цябе чытаць. А на тую зіму добра табе будзе вучыцца ў школе, бо ты шмат чаго будзеш ведаць з сваёй кніжкі. Я табе выпісаў з Менску гэтую дзіцячую часопісь на цэлы год. Чытай толькі, Зося, вучыся!

Ой, як рада была Зося!



# Хітрыя майстры

## Макар Сьвірэпы

У цесьляра Стружкіна сабраліся госьці. Усе—сябры яго, майстры.

Пасядзелі, пагаманілі, а потым давай спрачацца, чыя работа больш важная і мудрэйшая?

І тут спрэчкам канца ня было відаць. Спрачаліся, спрачаліся—і ўсё бяз толку. Гаспадару брыдка стала, што госьці яго пачалі ўжо нават лаяцца,—ён і кажа:

— Вось што, мужчыны, няхай кожны з свайго рамясла выдумае такую загадку, каб другія не адгадалі. Чые загадкі труднейшыя, у таго і работа мудрэйшая.

### Загадка цесьляра Стружкіна.

— У мяне ёсьць дошка. У ёй выразаны тры дзіркі: адна круглая, другая крыжам, а трэцяя чатырохкантовая.



Як зрабіць такую затычку, каб яна ўвайшла у гэтыя тры дзіркі?

### Загадка работніцы Вяроўкінай.

— Працавалі мы з сяброўкай на фабрыцы, якая вырабляе вяроўкі.



Сяброўка кажа:

— Вось калі-б гэта ўзьняцца ўверх на самалёце ці дырыжаблі ды адтуль вяроўку ўніз спускаць,—ці магла-б наша фабрыка зрабіць такую вяроўку, каб яе можна было спусьціць уніз з вышыні сямі кілёмэтраў?

Тут і майстар наш умяшаўся:

— Яно такую вяроўку можна зрабіць, але з такой вышыні на зямлю ня спусьціш.

— Чаму не?

### Загадка сьлёсара Напілка.

— Жылі мы аднаго разу ўтраіх у аднэй кватэры: я і два мае сябры. Дома мы рэдка калі сядзелі. Так што кватэра на замку была—тры-



ма замкамі замыкалася. У кожнага быў свой замок і свой ключ. Прыходзілі мы дахаты ў розны час.

Вось і адгадайце, як кожны з нас пападаў у хату, не чакаючы другіх сяброў?

### Загадка каваля Сталёвага.

— Прынёс мне дырэктар заводу пяць ланцугоў, па тры колцы ў кожным, і кажа:

— Злучэце іх у адзін ланцуг.

Добра, злучыць лёгка. Трэба чатыры колцы раскаваць і зноў по-



тым злучыць іх. Гэтак мог-бы ўсякі каваль зрабіць. Ну, а я адразу скеміў, што можна і менш колцаў раскаваць. Але колькі-ж?

(Адгадкі глядзі ў чарговым нумары).

**ЗДАРЭНЬНЕ З БОЙ-СКАЎТАМ.**

*Па гэтых шасьці малюнках злажэце самі апавяданьне.*







# ШТО ПІША АНГЕЛЬСКІ ПІОНЭР

НЯДАЎНА ў Англіі праводзіўся зьезд дзіцячых фашысцкіх*) організацый усяго сьвету. З прычыны гэтакага зьезду, у Лёнданскім саборы адбылося набажэнства.

Я і мой таварыш, Джэры Браўн, былі раней таксама бой-скаўтамі (так называецца дзіцячая фашысцкая організацыя). Тады мы ня ведалі яшчэ, хто такія бой-скаўты?

Захацелася нам паглядзець, як фашысцкія дзеці праводзяць свой зьезд. Мы адзелі форму бой-скаўтаў, якая яшчэ захавалася ў нас. І цяпер ніхто не пазнаў-бы, што мы—чырвоныя піонэры.

Тысяча шэсьцьсот бой-скаўтаў з сваімі сьцягамі ішлі ў сабор. Трэба праўду сказаць, што паход гэты быў праведзены па ўсіх правілах, было на што паглядзець.

— Я цяпер ведаю,—кажа мой таварыш,—чаму гэта дзеці некаторых рабочых становяцца бой-скаўтамі. Іх організацыя ўмее наладзіць ўсё так прывабна, што гэтым яны заманьваюць нашых дзяцей да сябе. Паглядзі, які радасны твар у таго маленькага негра. Ен, мабыць, забыўся, што ў Амэрыцы фашыстыя абыходзяцца з яго братамі, як з сабакамі...

Калі атрады праходзілі блізка ля нас, я кіўнуў Джэры, і мы ўвайшлі ў рады маршыруючых. Тоўсты правадыр бой-скаўтаў, убачыўшы гэта, толькі ўсьміхнуўся. Я больш уважліва прыгледзеўся да яго і пазнаў, што гэта—паліцэйскі; той самы паліцэйскі, які 1-га мая гумавай палкай разганяў дэманстрацыю рабочых і крычаў:

— Прэч з вуліцы! Разыдзіся!

Мы ўвашлі ў царкву і селі. Усё ўжо было гатова. Наперадзе стаялі з сьцягамі. Там-жа сядзелі багата адзетыя мужчыны і жанчыны. Пасьля я ўжо даведаўся, што сярод іх была дачка ангельскага караля і дачка генэрала. Гэты генэрал—правадыр бой-скаўтаў.

---

*) Організацыя дзяцей буржуазіі.



Наперад вышаў той генэрал, правадыр бой-скаўтаў, і сказаў прамову. Я добра памятаю, што ён сказаў.

— Паважайце ўсіх людзей,—казала гэта старая лісіца,—любеце братоў, бойцеся бога і паважайце караля.

Вось што ён сказаў.

Пасьля генэрала гаварыў Норыс, настаяцель сабора. Духоўнік Норыс яшчэ больш нагаварыў усялякай боскай чапухі.

— Гэтыя сьцены,—казаў ён,—бачылі ўжо шмат раскошных, багатых набажэнстваў. Тут каранаваліся каралі. Але-ж такое набажэнства, як сёньня, ніколі яшчэ не адпраўлялася. Сёньня тут сабраліся для пакланеньня ўсемагутнаму богу будучыя дзеячы сьвету...



— Для пакланеньня ўсемагутнаму капіталу,—сказаў Джэры, бліснуўшы вачыма.

— Мы яшчэ паглядзім, ці будуць яны дзеячамі фабрык і заводаў, —адказаў я досыць моцна.

Нас пачулі. Адзін бой-скаўт, які сядзеў за намі, запісаў наш атрад і сказаў, каб мы адтуль выбраліся. Мы пашлі, але-ж, ідучы, не маглі ўстрымацца ад сьмеху.

„Няхай пашукае наш атрад“, падумаў я. „Ён ужо даўно раскідаўся і большая частка яго членаў сталі піонэрамі“.

На вуліцы мы спыніліся. Неўзабаве пачуліся з сабору гукі аргану. Бой-скаўты пачалі строіцца па атрадах і дзяржавах: Аўстрыя, Бэльгія, Галяндыя і г. д.



Увечары чытаў я аб гэтым у аднэй буржуазнай газэце наступнае:

„У адзнаку братэрства, дзеці тых краін, якія раней ня жылі ў згодзе між сабой, ішлі разам“.

Я толькі падумаў: „Ці даўгавечнае ваша братэрства?“. Абы толькі пачалася вайна, і ўсё ваша „братэрства“ прападзе...

Мы-ж спадзяемся, што хутка прыдзе той час, калі дзеці рабочых усяго сьвету пад піонэрскім сьцягам сапраўды зьяднаюцца, як браты, для змаганьня з буржуазіяй.

**Вільям Штропп.**

З нямецкай пераклаў **У. Лукашэвіч.**

# Чаму ападаюць лісты

Нарыс *А. ПОЛЯКА*

ПРЫШЛА восень. Мы зараз-жа пазналі яе па тых зьявах прыроды, якія бачым кожны дзень навокал сябе.

Зялёныя прыгожыя лісьцікі дрэў пачынаюць зьмяняць свой колер і памалу засьцілаць сабою зямельку.

Усе мы бачым лістапад. Усім нам знаёмы праявы лістапада. Усе мы спрабавалі растлумачыць гэту загадку прыроды.

Тлумачыў яе па-свойму, па-дзікунскаму і першабытны чалавек, які ня меў ніякай асьветы, ніякай навукі. Ён парашыў, што гэта багі так робяць. Тлумачыць гэтую зьяву так і цяперашні рэлігійны цёмны чалавек. Яго тлумачэньне мала чым адрозьніваецца ад тлумачэньня першабытнага дзікуна.

Паглядзімо, як разумее і тлумачыць зьявы прыроды ў лістападзе сьвядомы чалавек, той чалавек, які здабыў свае веды шляхам назіраньняў і досьледаў.

Спачатку і сьвядомы чалавек памыляўся. Яму здавалася, што толькі холад ёсьць галоўная прычына лістапада. Потым было заўважана, што лісты дрэў асыпаюцца нават і тады, калі восень стаіць цёплая і марозу зусім няма.

Гэта кажа нам аб тым, што ня толькі холад спрыяе ападаньню лісьцяў. Праўда, холад робіць сваю справу, але галоўнай ролі не адыгрывае.

Зараз нам вядомы такія прыклады: дрэўцы, пасаджаныя ў цёплых хатах, з набліжэньнем восені страчваюць сваё лісьцё хоць на кароткі час. Дрэву патрэбен адпачынак, усё роўна, як чалавеку і жывёле.

Вось гэты адпачынак і будзе галоўнай прычынай таго, што ўвосень ападае ліст.

У цёплых краінах растуць вечна-зялёныя дрэвы. Яны таксама праз некаторы час скідаюць сваё лісьцё. Пэўна-ж, гэта зьява ў розных гатунках дрэў адбываецца не адначасова. Вось дзякуючы чаму мы можам сказаць, што там растуць вечна-зялёныя дрэвы. Бо гэта адбываецца ня разам, а часткамі.

Лістапад прыносіць вялікую карысьць нашым лістовым дрэвам. Мы ведаем, што пры дапамозе лісьцяў дрэвы бяруць з паветра вільгаць. Недахват вільгаці дрэва атрымлівае з зямлі пры дапамозе карэньняў. Зімою зямля прамярзае на значную глыбіню. Пры такіх умовах карэньчыкі зімою ня маюць магчымасьці атрымліваць вільгаць з зямлі... Адсюль робіцца зразумелым, што дрэва, якое на зіму ня страціла-б лісьця, павінна было-б страціць на іх харчаваньне апошнія свае сокі і, такім чынам, зусім засохнуць.

Тут вы запытаеце:

— „А чаму-ж не засыхаюць нашы іглістыя дрэвы, якія ня скідаюць на зіму сваіх іголак-лістоў?“

Праўда, што іглістыя дрэвы не засыхаюць, але іх лісточкі пабудаваны зусім інакш, чым у лістовых дрэў.

Але калі вы параўнаеце колер іголак з елак у восень і вясной, то заўважыце вялікую розьніцу...

На падставе ўсяго вышэй выказанага мы бачым, што лістапад прыносіць вялікую карысьць нашым лістовым дрэвам. Толькі дзякуючы лістападу, дрэвы нашы не паміраюць увосень, а рыхтуюцца да зімовага адпачынку.

Гэта ёсьць прыстасаваньне дрэў для таго, каб захаваць сябе ад сьмерці.

# ХТО ТАКІЯ АКЦЯБРАТЫ

*(Працяг).*

Усе сьцішыліся, паселі на табарэткі.

Ніна пачала расказваць, хто такія акцябраты.

— Акцябраты,—казала яна,—гэта дзеці, якія ня могуць яшчэ па малалетнасьці быць піонэрамі. Гэта тыя дзеці, якія яшчэ толькі рыхтуюцца стаць добрымі піонэрамі. У групы акцябрат дзяцей прымаюць з 7 да 10 г., бо з 10 год ужо прымаюць у піонэры.



*Будучы акцябронак.*

Акцябраты, як і піонэры, маюць свае *законы.* Гэта такія правілы, дзе гаворыцца, як трэба працаваць і да чаго імкнуцца.

Першы закон акцябрат такі: *акцябраты памагаюць комуністым, комсамольцам і піонэрам.*

Другі закон такі: *акцябраты імкнуцца стаць піонэрамі.*

Піонэры—зьмена комсамольцам, акцябраты—зьмена піонэрам.

Кожная зьмена рыхтуе сабе добрую зьмену: піонэры памагаюць працаваць акцябратам, комсамольцы—піонэрам, партыйцы—комсамольцам.

Але ў акцябрат ёсьць яшчэ і *звычаі.* Гэта такія правілы, якія адзначаюць, як штодня павінны трымаць сябе акцябраты, як павінны жыць.



*Трэба і каню свайму пачысьціць зубы.*

Вось першы звычай: *акцябраты сачаць за тым, каб цела іх і адзеньне былі чыстымі.*

У брудзе заводзяцца розныя хваробы. Акцябраты-ж павінны быць здаровымі, бо якая-ж з іх будзе добрая зьмена?

Другі звычай такі: *акцябраты любяць працаваць.*

Працаваць многа трэба для таго, каб многаму навучыцца. Што-ж робяць акцябраты, над чым працуюць? Яны займаюцца гімнастыкай, чытаньнем, маляваньнем, гульнямі. Дома памагаюць у працы бацьком.

Шмат чаго робяць акцябраты,—дадала нарэшце Ніна.—Сёньня мы пагуляем у карагодныя гульні і на гэтым скончым.

Вясёлым і радасным ішоў Адаська дахаты. Ён ужо—акцябронак!

Друк. БДВ. Зак. № 239. У ліку 2000 экз. Галоўбітбел № 123.

# ЦІ ПАДПІСАЎСЯ ТЫ НА „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“




1. Адасіку прысьніўся такі сон: прышлі да яго „Іскры Ільліча“.·. Прышлі і заклікаюць падпісацца...



2. Адасік напалохаўся: як гэта, каб часопісь сама прышла да яго ў хату?! Выскачыў з хаты на вуліцу.




3. Але часопісь усюды даганяе. Хіба ў краме схавацца?




4. З крамы Адасік папаў проста ў кіёск.




5. Карл Маркс таксама крычыць яму: „Ці падпісаўся ты на Іскры Ільліча“.




6. Стаміўся Адасік. Сеў. Падбеглі. „Іскры Ільліча“ і трасуць яго за плечы.




7. Прачнуўся Адасік, аж гэта бацька прынёс яму—„Іскры Ільліча“, № 1.



8. Адасіку „Іскры Ільліча“ дужа спадабаліся, і ён борзда пабег сказаць аб гэтым сваім сябром.




9. Прыёмшчык падпіскі на пошце зьдзівіўся: цэлы атрад прываліў падпісацца на „Іскры Ільліча“.

**Дзеці! бярэце прыклад з Адасіка і падпішэцеся на сваю часопісь.**